# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Субота, 9 кастрычніка 1993 года | №117 (10668) | Цана 20 руб.

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ ● АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

*Каштоўны набор медыкаментаў для дапамогі хворым на гемафілію ахвярам чарнобыльскай катастрофы перадала амерыканская фармацэўтычная фірма "Вітас карпарэйшн". Кошт невялікага чамадана -- яго вы бачыце на здымку -- 95 тысяч долараў. Набор лекаў -- гэта не ўсё, чым вырашыла дапамагчы вядомая фірма. У планах фірмы наладзіць у Мінску выпуск лекаў, неабходных для лячэння гемафіліі.*

**НА ЗДЫМКУ:** у час перадачы лекаў прадстаўнікам Дзяржкамчарнобыля.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## Салдаты і капуста

Землі калгаса "Свабода" падыходзяць ушчыльную да Салігорска. Гаспадарка спецыялізуецца на вырошчванні агародніны, у першую чаргу, для шахцёраў, абагачальнікаў. Некаторыя асобы ўспрымаюць задачы калгаса даволі спрошчана. Таму ноччу, а то і сярод белага дня яны амаль адкрыта выкопвалі моркву, збіралі памідоры, яблыкі. Вядома, бясплатна. Асабліва даставалася капусце, якая добра родзіць на мясцовых землях. Гаспадарка несла вялікія страты ад такой "дапамогі".

Сёння 70-гектарны палетак, дзе расце капуста, ахоўваюць узброеныя салдаты. За двухмесячную службу сем салдат павязуць з сабой у часць шэсць тон капусты. Па сённяшніх цэнах -- амаль на паўмільёна рублёў.

-- Але ў любым выпадку ад такога супрацоўніцтва гаспадарка толькі выйграе, -- гаворыць старшыня калгаса К.Т.Саніковіч. -- Вельмі ўжо многа было ў апошні час спусташальных набегаў на нашы палі.

Але ж, каб на кожнае поле паставіць хаця б па аднаму салдату, нам наўрад ці хопіць усягобеларускага войска. Што і казаць, дажыліся...

(Наш кар.).

## ТАКІ «ГАНДАЛЬ» НЕ ПАТРЭБЕН

Чым больш размах набірала ўборка ўраджаю, тым часцей у Старадарожскім упраўленні сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання паяўляліся ганцы з калгасаў з просьбай-патрабаваннем:

-- Дайце бензін, знайдзіце салярку!..

Кіраўніцтва ўпраўлення вырашыла праверыць, а ці ўсё паліва, атрыманае раёнам, выкарыстоўваецца рацыянальна? Зрабілі выбарку з пачатку года і былі даволі здзіўлены. Калгас "Дружба" перадаў у Глуск 2.400 літраў салярКі. Калгас "10 год Кастрычніка" амаль чатыры тоны яе адправіў у Бабруйск, "Сцяг камунізму" 1.600 кілаграмаў дызельнага паліва перапампаваў у крычаўскія ёмістасці. Але ўсе рэкорды пабіў калгас "Герой працы", які прадаў ці абмяняў на нейкія тавары 17 тон салярКі і 7 тон бензіну... Усяго такім чынам было рэалізавана 25 тон бензіну і 34 -- дызельнага паліва.

-- Мы разумеем, што кіраўнікі гаспадарак, прадаючы ці абменьваючы паліва, не шукалі нейкай асабістай выгады. Яны дзейнічалі ў інтарэсах калгасаў, узамен атрымлівалі штосьці вельмі неабходнае, -- гаворыць намеснік начальніка ўпраўлення па эканоміцы Г.Ф.Шаранда. -- І ўсё ж апраўдаць іх не можам ніяк. Бо з-за дэфіцыту паліва месцамі пад пагрозай зрыву была своечасовая уборка ўраджаю. Без абмену сёння не абысціся, але прапаноўваць трэба сваю, сельскагаспадарчую прадукцыю, а не паліва, якое з такой цяжкасцю здабыта ў Расіі.

Кіраўнікі гаспадарак, якія не па прызначэнню выкарыстоўвалі паліва, строга папярэджаны. Думаецца, тут не перашкодзілі б і эканамічныя санкцыі. бо паліва яны ўсё-такі зноў будуць атрымліваць. Па больш нізкіх, дзяржаўных цэнах.

(Наш кар.).

## ВОСЕНЬ НЕ АБЯЦАЕ СПАКОЮ

Кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі пачало актыўныя кансультацыі з урадам рэспублікі і аб"яднаннямі наймальнікаў па праблемах стабілізацыі эканомікі, стварэння ўмоў для ўстойлівай работы прадпрыемстваў, прадухілення масавага беспрацоўя і далейшага збяднення людзей.

-- Такой накіраванасці перагаворы з уладнымі структурамі і работадаўцамі мы вядзём цяпер амаль беспераПынна, -- сказаў у гутарцы з карэспандэнтам Белінфарма старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык. -- Да гэтага нас вымушае неадэкватная рэакцыя ўрада на сацыяльныя з"явы, якія адбываюцца ў грамадстве.

Прафсаюзны лідэр лічыць, што час афіцыйна прызнаць факт расслаення грамадзян па катэгорыях матэрыяльнай забяспечанасці і з улікам гэтага праводзіць сацыяльную палітыку.

-- Трэба даціраваць не пэўныя галіны гаспадаркі, а найменш абароненыя слаі насельніцтва: пенсіянераў, інвалідаў, мнагадзетныя сем"і, -- адзначыў далей У. Ганчарык. -- Вядома, канкрэтную дапамогу аказваць больш складана, чым проста захаваць датацыі, скажам, на асноўныя прадукты харчавання. Але ў такім выпадку безаблічнае размеркаванне аднолькавае як для студэнтаў, якія жывуць толькі на стыпендыю, так і для дзелавых людзей, хто ўжо накапіў значны капітал.

Прафсаюзы выказваюць заклапочанасць прадугледжваемым Саўмінам далейшым павышэннем тарыфаў на камунальныя паслугі, зніжэннем датацый на хлеб, малако і малочныя прадукты, поўнай кампенсацыяй спажыўцамі чакаемага росту цэн на энергарэсурсы.

-- У такіх умовах мы будзем дабівацца, каб разрыў паміж ростам спажывецкіх цэн і даходамі насельніцтва, заработнай платай працоўных не перавышаў, як гэта і запісана ў нашым з урадам генеральным пагадненні на 1993 год, 30 працэнтаў, -- заявіў У. Ганчарык. -- У выпадку новага вітка цэн мы будзем настойваць на пераглядзе памераў мінімальнай зарплаты, тарыфнай стаўкі першага разраду і, адпаведна, памераў стыпендый, пенсій, дапамог.

Пакуль ФПБ не заклікае працоўных да масавых дзеянняў, улічваючы, відаць, што зараз нямногія вытворчыя калектывы Беларусі гатовы стачкамі дэманстраваць сваю нязгоду з эканамічнай палітыкай улад.

-- Аднак у далейшым, пры пагаршэнні сітуацыі, мы не выключаем і забастоўкі, бо да эканамічнай стабільнасці ў рэспубліцы яшчэ далёка, - - заключыў У. Ганчарык.

Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛІНФАРМ.

## □ Памяць

### СІМВАЛ ПЕРАМОГІ

Са старажытных часоў вайсковыя сцягі шанаваліся як сімвал салдацкага гонару, доблесці і славы. Сцяг напамінаў кожнаму воіну -- ад радавога да генерала - - пра іх свяшчэнны абавязак служыць сваёй Радзіме.

У Вялікай Айчыннай вайне вялі наперад палымяныя сцягі і беларускіх партызан. Значная калекцыя іх захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Некаторыя належалі партызанскім атрадам і брыгадам, што дзейнічалі ў чэрвеньскіх лясах. Адзін з іх -- сцяг атрада імя газеты "Праўда".

Цікавы лёс у гэтай гістарычнай святыні. У 1939 годзе за паспяховае выкананне плана па нарыхтоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі Кліноцкаму сельскаму Савету быў уручаны пераходны Чырвоны сцяг Чэрвеньскага райкома партыі і райвыканкома. Калі пачалася вайна, гэты сцяг захаваў у сябе дома мясцовы жыхар Фёдар Самуілавіч Капітулец. Вясной 1942 года быў арганізаваны партызанскі атрад імя газеты "Праўда" пад камандаваннем Пятра Іванавіча Іваненкі. Да прыняцця прысягі падрыхтавалі і баявы сцяг. На палотнішчы пераходнага Чырвонага сцяга Кліноцкага сельсавета партызанкі М.Казімірская і Е.Бабко вышылі назву атрада. На другім баку мастак А.Шустаў намаляваў партрэты праваДыроў.

Анатоль ФУРЫК.

На Маладзечанскім піўзаводзе працуюць людзі розных прафесій. Сярод іх -- шафёры.

Віктар Карэнька скончыў Чысцінскую сярэднюю школу, працаваў вучнем слесара ў саўгасе "Краснае". Пасля службы ў арміі закончыў аўтавучэбны камбінат, дзе набыў спецыяльнасць шафёра.

Працаваў на аўтобусе "ЛАЗ-695", аўтамабілі "КамАЗ". І вось ужо год, як Віктар Карэнька круціць баранку "УАЗ-452". Сярод вадзіцеляў ён карыстаецца аўтарытэтам і павагай.

...Бяжыць насустрач дарога, спявае сваю звонкую песню матор -- у чарговым рэйсе Віктар Канстанцінавіч Карэнька.

Генадзь ДУРЭЙКА,
Міхаіл АСАЕВІЧ /фота/.

## ПАЖАР У ІНТЭРНАЦЕ

Ад пакінутага без нагляду ўключанага ў электрасетку тэлевізара ўзнік пажар у інтэрнаце трэста № 23 "Сельбуда" ў Маладзечне. У выніку пажару пашкоджаны пакой на чацвёртым паверсе дзевяціпавярховага дома. Некалькі жыхароў інтэрната атрымалі лёгкія апёкі -- давялося звярнуцца па дапамогу да медыкаў. Небяспека была ліквідавана пажарнымі службамі своечасова.

Фёдар САГАНОВІЧ.



## □ Думка

### ЭХ, ДАРОГІ!

Шмат на сваім вяку паездзіў я па дарогах. І не толькі па сваіх. Хочацца крыкам крычаць: да якога часу цярпець нам разбуральнае бездарожжа?!

Усім вядома, да чаго вядзе будаўніцтва часовых, дакладней сказаць, нетрывалых дарог. Як сцвярджаюць самі спецыялісты-дарожнікі, такая практыка з"яўляецца не чым іншым, як "разарэннем казны", таму што нетрывалыя дарогі літаральна перамолваюцца навейшым магутным аўтатранспартам.

Але ці вінаваты ў "перамолванні" дарог наш аўтатранспарт? А для якога ж транспарту будуюцца гэтыя дарогі? Няўжо для дзіцячых калясак? У нас жа цяпер усюды магутны транспарт, яго вельмі многа, і з кожным годам яго колькасць павялічваецца. Навошта ж будаваць такія дарогі, якія "перамолваюцца" коламі і гусеніцамі?

Паглядзім на асноўныя тыпы дарог.

Што такое ўнутрыгаспадарчыя дарогі з цвёрдым пакрыццём? У асноўным гэта гравійныя дарогі, якія больш года "не жывуць". І пры гэтым іх неабходна пастаянна рамантаваць. Расходы -- вялікія, выгада -- кароткачасовая. І ўсё ж будуюць, бо без іх яшчэ горш.

Далей ідуць асфальтаваныя. У даўнія часы, калі наш грузавы аўтатранспарт у асноўным складалі паўтаратонкі і трохтонкі /ды і тых было мала/, такія дарогі служылі параўнальна доўга. Мы вымушаны былі будаваць іх яшчэ і таму, што тады выпрацоўвалі вельмі мала цэменту, і яго не хапала нават на больш важныя аб"екты будаўніцтва.

Ці доўга "жывуць" асфальтаваныя дарогі? На жаль, нядоўга. У спякотны летні дзень асфальт разаграецца настолькі, што чапляецца за пакрышкі машын, быццам раскіслая гліна. Пасля спякоты пакрыццё размываюць дажджы, вільгаць пранікае пад асфальт і зімой прамярзае, успучвае палатно, і яно трэскаецца. Калі на яго не пакласці "латкі", дарога стане непраезная. І "латкі" лепяцца. На іх расходуецца многа сіл і сродкаў, але спякота, дажджы і маразы па-ранейшаму разбураюць дарогу.

Ці дорага абыходзіцца будаўніцтва такіх часовых дарог? На жаль, вельмі дорага. У выніку мы трацім вялікія сродкі і матэрыяльныя рэсурсы. Але амаль без карысці.

Дзе ж выйсце? Выйсце -- у будаўніцтве трывалых дарог, гэта значыць такіх, якім быў бы не страшны ніякі цяжкі аўтатранспарт. Такія дарогі ёсць -- гэта "бетонкі". Праўда, і яны не вечныя. Але ёсць і вечныя, у тым сэнсе, што могуць "жыць" не менш стагоддзя, а то і больш.

Памятаю, як у канцы вайны наша калона танкаў, якая наступала ўздоўж аўтастрады, была абстраляна процітанкавымі гарматамі ворага. Нас здзівіла, што ад выбухаў нямецкіх снарадаў на дарозе засталіся толькі драпіны. "А чаму няма варонак?" -- гадалі мы. А пасля бою разгледзелі, што траса ўкладзена жалезабетоннымі плітамі таўшчынёй 40 сантыметраў. Вось якія нам патрэбны дарогі!

Праўда, яны дарагія. Гэта так. Але лепш будаваць менш, ды лепш. Такія дарогі разлічаны на любы, нават самы цяжкі аўтатранспарт. Ім не страшныя ні спякота, ні дажджы, ні маразы. Не страшныя ім таксама трактары і іншы гусенічны транспарт. І рамонт такіх дарог абыходзіцца ў дзесяткі разоў дзешавей, чым асфальтаваных. А галоўнае, яны разлічаны не на адзін век. У выніку такія дарогі таннейшыя за асфальтаваныя. І скорасць руху транспарту па іх намнога вышэйшая, чым на іншых дарогах. І транспарт менш псуецца. І менш зношваюцца пакрышкі.

У Германіі, дзе я працаваў многа гадоў, мне расказвалі, што ў вытворчасці жалезабетонных пліт для аўтатрас выкарыстоўваюць у якасці трывалага напаўняльніка танныя адходы металургіі -- шлак. Гэта намнога падзешаўляе вытворчасць даўгавечных пліт і ў той жа час ліквідуе "кучы" шлаку вакол металургічных прадпрыемстваў. Ці прымяняем мы гэты танны матэрыял?

Адным словам, я за дарагую, але даўгавечную дарогу. А што думаюць наконт гэтага нашы спецыялісты? Хацелася б пачуць іх думку.

Аляксандр СЕРДЗЮКОЎ,
ветэран вайны і працы.

## НЕ ПАДВЯЛО ЧУЦЦЁ МЫТНІКАЎ

Не думалі, не гадалі прадстаўнікі літоўскай фірмы "Балтык-спед", калі браліся за перавозку грузу з Масквы ў нямецкі горад Эсен, што пільнасць беларускіх мытнікаў будзе на вышыні. А яны, паглядзеўшы на таваратранспартныя накладныя, адразу ж адчулі штосьці нядобрае. І першае, што іх насцярожыла, -- адсутнасць адзнакі кантрольна-прапускнога пункта ў Оршы. Выклікалі падазрэнне штампы і пячаткі, пастаўленыя на суправаджальных дакументах.

Супрацоўнікам Воранаўскай мытні нічога не заставалася, як паставіць на прыкол дзве вялікагрузныя машыны і, як кажуць, высветліць праўду-матку. Пры аглядзе аказалася, што замест нікелю кузавы транспарту былі біткам набіты ломам медзі ў колькасці больш як 49 тон.

Чуццё мытнікаў не падвяло, а сэрца ў суправаджальнікаў, вядома, ёкнула. Плакаў і іх ганарар за пасрэдніцтва. Незаконна правозімы груз цераз тэрыторыю Беларусі затрыманы. А матэрыялы на яго перададзены ў суд, які цяпер павінен сказаць сваё важкае слова.

Міхаіл ЖУРАВОВІЧ.

## ЯКАЯ ЯНА — «ПОЛЬШЧА-93»?

*З 11 па 15 лістапада ў Мінску пройдзе выстаўка "Польшча-93". На ёй будзе прадстаўлена прадукцыя больш чым 35 буйных польскіх фірм, якія выпрацоўваюць прадукты харчавання, лякарствы, тавары народнага спажывання і іншыя вырабы.*

*Як заявіў генеральны дырэктар фірмы "Полэкспо эксібішн" Ежы Караім, арганізатар выстаўкі "Польшча-93", гэтая экспазіцыя завершыць серыю выставак, што прайшлі раней у Кіеве, Маскве, Рызе. Ён таксама сказаў, што ў мінулым годзе ў Мінску аналагічная выстаўка прайшла вельмі паспяхова. З беларускага боку была праяўлена цікавасць. Тады былі заключаны шматлікія кантракты з беларускімі фірмамі.*

Ларыса КЛЮЧНІКАВА.

## ЗНЯТА ПРАБЛЕМА ЖЫЛЛЯ

Некалі Плешчаніцкі дрэваапрацоўчы цэх /Лагойскі раён/ размяшчаўся ў невялікіх старых пабудовах. Выраблялі тут толькі дошкі, тару, ручкі для рыдлёвак.

З цягам часу прадпрыемства аснашчалася рознымі механізмамі, узводзіліся новыя вытворчыя і бытавыя памяшканні, а для работнікаў -- жыллё. Зараз будуецца чатырохкватэрны дом, які павінен "зняць" на прадпрыемстве праблему з жыллём.

Хаця і нялёгка зараз гаспадарыць, забяспечваць вытворчасць усім неабходным, аднак агульны аб"ём работ не знізіўся. Тут не скарочаны ні адзін чалавек. Наадварот -- дадаткова ўзяты на працу яшчэ чатыры работнікі.

Асартымент прадукцыі расшырыўся, да яго прыбавіліся вагонка, сталярныя вырабы, садовыя домікі.

Генадзь ХОЦЫН.

## Мінжылкамгас растлумачвае

**Законам "Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1993 год" прадугледжана, што насельніцтва павінна аплачваць 25--30 працэнтаў затрат па прадастаўленню жыллёва-камунальных паслуг. Дзеючыя да 1 кастрычніка тарыфы кампенсавалі яго прадпрыемствам за падачу вады 8,3 працэнта затрат, за каналізацыю -- 5,8, за ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне -- 6,5 працэнта. Кватрплата кампенсавала толькі 1,2 працэнта затрат арганізацый па эксплуатацыі жыллёвага фонду.**

**Рост цэн на паліўна-энергетычныя, іншыя матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы ўскладніў фінансавае становішча жыллёва-камунальных прадпрыемстваў. У сувязі з гэтым прапанавана павысіць з 1 кастрычніка тарыфы для насельніцтва па водазабеспячэнню, ацяпленню, падачы гарачай вады ў 3,5 раза, каналізацыі -- у 5,5, аплаце жылой плошчы -- у 10 разоў. Такім чынам, з гэтага месяца за адзін кубічны метр вады з аднаго жыльца будзе брацца 15 рублёў 12 капеек пры сабекошце 52 рублі, а за пропуск такой жа колькасці сцёкаў -- 14 рублёў 96 капеек пры сабекошце 46 рублёў. За гарачую ваду з аднаго чалавека неабходна ўплачваць 425 рублёў 25 капеек пры сабекошце 1.860 рублёў, за ацяпленне аднаго квадратнага метра жылплошчы -- 141 рубель 75 капеек пры сабекошце 620 рублёў. Кватэрная плата складзе 13 рублёў 20 капеек за адзін квадратны метр жылой плошчы пры сабекошце 102 рублі.**

**З улікам павышэння тарыфаў на газ і электрычнасць у ацяпляльны сезон месячная плата за пражыванне арыенціровачна складзе за аднапакаёвую кватэру жылой плошчай 20 квадратных метраў для двух жыльцоў -- 6.500 рублёў, за двухпакаёвую жылой плошчай 30 квадратных метраў для трох чалавек -- 9.800, а за трохпакаёвую жылплошчай 43 квадратныя метры для чатырох жыльцоў -- 13.000 рублёў.**

БЕЛІНФАРМ.

## □ Актуальнае інтэрв'ю

# ЗМЕНШЫЦЬ ЛЕКАВЫ ГОЛАД

**Кожны жыхар нашай рэспублікі ў той або іншай меры адчувае на сабе вынікі так званага "лекавага голаду", выкліканага разрывам міжгаспадарчых сувязей, вострым дэфіцытам валютных сродкаў, а таксама імклівым ростам цэн. Асабліва церпяць ад гэтага найменш сацыяльна абароненыя слаі насельніцтва, у першую чаргу інваліды і пенсіянеры, якім не па кішэні нават тыя лякарствы, што ёсць у аптэках.**

**Аб тым, як вырашаецца сёння гэтая праблема, аб прымаемых мерах сацыяльнай абароны расказвае міністр аховы здароўя рэспублікі Васіль КАЗАКОЎ.**

Рэзкае разбурэнне ўзаемасувязей з блізкім замежжам і ў першую чаргу з Расіяй і Украінай парадзіла ў рэспубліцы востры дэфіцыт лякарстваў, паколькі практычна ўсе асноўныя іх пастаўшчыкі, якія, як правіла, спецыялізаваліся на вытворчасці асобных груп медыкаментаў, засталіся менавіта ў гэтых рэгіёнах. Паяўленне мытных бар'ераў, кваціраванне і ліцэнзаванне толькі ўскладнілі сітуацыю. У прынцыпе лякарствы можна было б набыць у далёкім замежжы, але для гэтага неабходна наяўная валюта. Для больш-менш нармальнага забеспячэння імі насельніцтва Беларусі, паводле самых скромных падлікаў, патрабуецца 150 мільёнаў долараў. У той жа час увесь валютны бюджэт рэспублікі складае 180 мільёнаў. Праблема звязана таксама і з адсутнасцю ўласнай развітой фармацэўтычнай прамысловасці, якая магла б выпускаць хоць бы асноўныя жыццёва важныя лекавыя сродкі.

Усё гэта прывяло да таго, што аб'ём паставак медыкаментаў знізіўся да 40--50 працэнтаў ад неабходнай колькасці. Праўда, трэба адзначыць, што жыццё лячэбна-прафілактычных устаноў у многім аблягчаюць гуманітарныя акцыі замежных краін.

Улічваючы сацыяльную значнасць лекавай дапамогі насельніцтву, урад і Міністэрства аховы здароўя распрацавалі шэраг аператыўных дзейсных мер па выпраўленню сітуацыі. У выніку праведзеных перагавораў на розных узроўнях удалося часткова аднавіць пастаўкі многіх лекавых сродкаў у аптэчную сетку з Расіі і Украіны. У стадыі завяршэння арганізацыя паставак жыццёва важных лякарстваў па германскаму крэдыту на суму каля 30 мільёнаў нямецкіх марак, а таксама па крэдыту Еўрапейскага супольніцтва на суму каля 30 мільёнаў долараў. Прадугледжваецца выдзеліць каля 35 мільёнаў долараў з Валютнага фонду рэспублікі. Адшукваюцца матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы для бартэрных аперацый. Прапрацоўваюцца таксама пытанні па набыццю лекавых сродкаў на кансігнацыйнай аснове. Ужо 15 замежных фірм далі згоду на такія пастаўкі. Атрыманыя ад іх лякарствы будуць рэалізоўвацца за валюту і рублі па дзеючаму курсу.

Аднак усё гэта прыводзіць да таго, што цэны на лякарствы пастаянна растуць. У гэтай сітуацыі робіцца ўсё магчымае для сацыяльнай абароны насельніцтва. Так, у адпаведнасці з рэспубліканскім заканадаўствам права на бясплатнае атрыманне лякарстваў маюць: інваліды і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны; дзеці ва ўзросце да 3 гадоў; воіны-інтэрнацыяналісты; бацькі, жонкі і дзеці ваеннаслужачых, якія загінулі ў выніку ранення, кантузіі або калецтва, атрыманых пры абароне СССР або пры выкананні іншых абавязкаў ваеннай службы; былыя ўдзельнікі антыфашысцкага руху Супраціўлення; грамадзяне, якія захварэлі або перанеслі прамянёвую хваробу, выкліканую вынікамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС; грамадзяне, якія пражываюць у зонах першапачатковага і наступнага адсялення і ў зонах з правам на адсяленне; дзеці і падлеткі, якія пражываюць у зоне з перыядычным радыяцыйным кантролем; грамадзяне, якія прымалі ўдзел у работах па ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС; асобы, якія захварэлі на асобныя віды захворванняў, і іншыя.

Інваліды I і II груп і дзеці-інваліды набываюць лякарствы са скідкай на 90 працэнтаў, калі не карыстаюцца правам іх бясплатнага атрымання.

Акрамя таго, лякарствы са скідкай 50 працэнтаў атрымліваюць: пенсіянеры, якія маюць пенсіі ў мінімальных памерах; былыя непаўналетнія вязні фашысцкіх канцлагераў; усе ветэраны працы, Узброеных Сіл, якія дасягнулі ўзросту 70 гадоў, і многія іншыя.

Такім чынам, ільготамі на набыццё лекавых сродкаў у Беларусі карыстаецца прыкладна палавіна насельніцтва, як правіла, яго найменш абароненыя слаі.

Па меры павелічэння спажывецкіх цэн на медыкаменты своечасова карэкціруецца і спажывецкі бюджэт, зыходзячы з якога пераглядаецца памер мінімальнай заработнай платы, іншых выплат, а таксама індэксуюцца грашовыя даходы насельніцтва.

Усе гэтыя меры ў комплексе павінны зменшыць "лекавы голад" і змякчыць сацыяльныя вынікі павышэння цэн на лякарствы.

БЕЛІНФАРМ.

**Колонка с продолжением**

*Эдуард ЯСНЫЙ*

# ВЫШЕ ОБСТОЯТЕЛЬСТВ

(Продолжение. Начало в №115,116.)

Несколько минут сидел не двигаясь, бессильно уронив на колени тяжелые, налитые тупой, ноющей усталостью руки. Тело потеряло всякую способность к движению. Непреодолимое оцепенение овладело им, парализовало волю, и если бы в эти мгновения встал вопрос о его жизни, -- вряд ли он пошевелил бы пальцем, чтобы отвести опасность. Стыд, страх, обида, отвращение к себе нахлынули на атлета при мысли, что надо встать, пройти под сочувствующими взглядами многих людей, что-то говорить, что-то делать.

Мюнхенскому разгрому сборной СССР посвящена большая литература. Отечественные и зарубежные специалисты со всех сторон "обсосали" этот вопрос. Вроде никаких темных пятен не осталось: тренеры и спортсмены допустили грубые тактические ошибки. В среднем весе, в частности, норвежец Лайф Йенсен /чемпион Олимпиады с относительно невысоким результатом/ перехитрил, переиграл Шария и Павлова. Почему, как это случилось? Здесь, думаю, мы знаем не все.

В марте 1984 года в Минске проходил чемпионат страны по тяжелой атлетике. Шарий был приглашен на эти соревнования в качестве почетного гостя. Присутствовал на них и А.С.Медведев -- старший тренер олимпийской сборной мюнхенского образца.

С Алексеем Сидоровичем у меня состоялась долгая беседа. Речь, в основном, шла о его книге "Психология победы", на мой взгляд, интересной и толковой. Автор с подъемом рассказывал о работе над ней, приводил интересные примеры, факты и эпизоды, не вошедшие в книгу, откровенно делился мыслями о героях "Психологии победы".

-- Алексей Сидорович, -- спросил я, -- почему все-таки Шарий получил в Мюнхене "баранку", какова ее психология?

Медведева сразу как будто подменили. Минуту назад это был общительный, откровенный, увлеченный собеседник, который охотно и подробно отвечал на любой вопрос. После "почему" -- замкнутый, настороженно-официальный, застегнутый на все пуговицы.

-- А вот этого я вам не скажу, -- отрезал он.

Осмысливая пережитое, Валерий Петрович считает, что в профессиональном спорте без больших поражений не бывает и больших побед. Эту суровую диалектику следует воспринимать как должное. Поражение -- это тоже опыт, тоже школа, тоже наука, которых не избежать на тернистом пути к вершинам. Здесь тебя поджидает не приятная прогулка, а непрерывная борьба с объективными законами, с бескомпромиссными соперниками, с самим собой. Ну а коль борьба -- будь готов ко всему.

Ты потерпел поражение? Не казни себя дни и ночи, не посыпай голову пеплом, а начинай с новым упорством ковать победу. Чем дольше будешь казниться, тем меньше шансов выковать ее.

Прежние /"детские", по выражению Шария/ взгляды не спешили, однако, выветриваться. В первые дни по возвращении из Мюнхена он часами сидел в квартире. Когда решался покинуть убежище, то, понурив голову, угрюмый и одинокий, хотел сделаться маленьким и незаметным. Восхищенные взгляды, которые бросали на него мальчишки и которые раньше льстили, -- раздражали. Если видел знакомого, старался обойти его, чтобы не встретиться. Валерия терзали подозрения всех впечатлительных неудачников, будто люди его жалеют или в грош не ставят, пренебрегают им.

И все же Шарий не оставался в труднейшие минуты в одиночестве. К чести друзей, они подали ему руку поддержки. Не снимали с него "стружку" и в спортивном клубе Армии, не отвернулся республиканский Спорткомитет, прежде всего в лице ныне покойного председателя В.П.Сазановича и "куратора" тяжелой атлетики Е.В.Ширяева.

Когда боль немного поутихла, собрался в Червень. Взял билет чуть ли не на последний автобус и отправился к дедушке и бабушке, у которых жил до 13 лет.

Изношенное "транспортное средство" неторопливо бежало по шоссе, на остановках кто-то выходил, кто-то садился. В небольшом железном коробке на четырех колесах, пропахшем бензином, было спокойно и уютно, сладкая истома овладевала телом, веки заботливо прикрывали глаза.

-- Червень, -- объявил водитель.

Валерий вышел из автобуса. На землю опустился поздний вечер и окутал окрестности темными сентябрьскими одеждами. Мирно и успокаивающе блестели над городком его детства звезды, такие же прекрасные и таинственные, как и десять, сотни, тысячи лет назад.

Сердце радостно зачастило, когда приблизился к знакомой калитке. Маленькая и неказистая березка,посаженная в первый школьный год, превратилась в высокую стройную красавицу. Ее ветви свесились через невысокий заборчик, бережно погладили по лицу. Осторожно открыл калитку, пересек дворик, который в раннем детстве представлялся огромным и просторным. В этом дворике он смастерил когда-то свою первую "штангу" -- два ржавых колеса на дубовой палке, здесь же, пока не захолодало, проводил "тренировки".

Валерий легонько постучал в дверь. В доме почти мгновенно зажегся свет. Знакомые шаги -- дедушка. Старик молча обнял внука исхудалыми слабыми руками, на которых когда-то носил его по хате и которые когда-то были невероятно сильными.

-- Проходи, Валера, проходи, -- взволнованно и радостно сказал Константин Иосифович.

Они вступили в знакомый до каждой трещинки коридорчик, несколько шагов -- и кухня. Здесь уже суетилась маленькая, худенькая бабушка. Она прильнула к внуку и поцеловала его. В ее глазах, давно утративших синеву, блеснули слезы, бабушка торопливо смахнула их.

-- Ну, внук, садись, рассказывай, пока старая нам чего-нибудь сообразит, -- предложил дедушка.

-- Правда, правда, мужчины, говорите, а я накрою стол.

Долго светилось окно в доме Каминских. Пропели первые червен ские петухи, а окно еще светилось.

*(Окончание следует.)*

■ Да 100-годдзя першай выканаўцы ролі купалаўскай Паўлінкі

# РАСПЯЧАТАЦЬ ПРАЗ ПАЎВЕКА

Вельмі здзівіўся, калі літаральна напярэдадні падзеі ў беларускім календары на 1993 год у лістку за 12 верасня прачытаў :"100 гадоў з дня нараджэння П.В.Мядзёлкі /1893--1974/, заслужанага дзеяча культуры БССР".

Сорак год назад мы, вучні-старшакласнікі Будслаўскай сярэдняй школы не паверылі б, што наша настаўніца ўвойдзе ў гісторыю, і ў календары будзе адзначаны яе юбілей. Гэты факт абудзіў маю памяць, вярнуў у школьнае юнацтва,ў50-я гады. Тады сярод нас нямала вучылася і перарасткаў -- вінаватая вайна. Такі быў і я, сялянскі хлопец з вёскі Ваўкалаткі, што за восем кіламетраў ад Будслава, на шашы ў Даўгінава. Мая маці-ўдава, не меўшая ніводнага класа адукацыі, прагнула, каб хоць сярэдні сын скончыў інстытут.

У восьмым класе споўнілася мне 16 год. Вось у такім узросце і пазнаёміўся з настаўніцай рускай мовы і літаратуры Паўлінай Вінцэнтаўнай Мядзёлка /імя па бацьку мы вымаўлялі па-руску: Вікенцьеўна/. Пра яе ў той час ведалі мы няшмат. Гаварылі, што была рэвалюцыянеркай, потым стала, нібыта, ахвярай сталінскіх рэпрэсій, пасля пераехала ў родныя мясціны.

Выглядала яна тады, як нам здавалася, старэй за свае 57 гадоў, калі ўпершыню прыйшла ў клас. Коратка стрыжаныя пасівелыя валасы, глыбокія маршчыны на твары, хударлявая постаць, акуляры...

І вось аднойчы на ўроку Паўліна Вінцэнтаўна прыадчыніла нам акенца, адкрыла некаторыя факты са сваёй біяграфіі -- бурнай, багатай падзеямі.

Паказала старую пажаўцелую фатаграфію, усміхнулася: "Вось якая была маладая Паўлінка". З фота глядзела на нас прывабная, добра апранутая дзяўчына. " Вось тады і сустрэлася я з Янкам Купалам, які таксама вучыўся на курсах у Пецярбургу.Спадабалася яму, таму і прапанаваў ён мне ролю Паўлінкі ў яго шырока вядомай зараз п"есе-камедыі, якую ўпершыню вырашылі паставіць на сцэне беларускія энтузіясты, што там вучыліся. Пастаянна Іван Дамінікавіч прыходзіў на нашы рэпетыцыі. І каб лепш увайшла я ў ролю, галоўную ролю, ён пачаў праводзіць мяне на кватэру, фліртаваць...Поспех "Паўлінкі" быў нечаканы".

Нам, вучням, і не верылася, што ў нашай настаўніцы былі такія насычаныя падзеямі студэнцкія гады яшчэ да рэвалюцыі. Але сумнявацца ў шчырасці яе слоў падстаў не было. Паступова, да 10 класа, нам удалося даведацца яшчэ тое-сёе з біяграфіі гэтай незвычайнага лёсу беларускай жанчыны, нашай зямлячкі.

Апошняя мая сустрэча з П.В.Мядзёлка адбылася ў жніўні 1964 года, за пяць год да яе смерці, на кватэры ў Будславе. Доўга не магла ўспомніць свайго вучня колішняя яго настаўніца, бо прайшло 15 год пасля майго развітання са школай.

І адразу старая, інтэлігентнага выгляду жанчына накінулася на мяне з папрокамі:"Чаму вы не размаўляеце на роднай мове?" "Паўліна Вікенцьеўна, дык Вы ж самі тры гады вучылі мяне па-руску. А тым больш што я ўжо дзесяць год, як жыву і працую пасля інстытута ў Казахстане. Руская мова стала для мяне другой роднай мовай, на кожны дзень." Мая былая настаўніца ўпарта адстойвала свой жыццёвы прынцып: беларус павінен гаварыць па-беларуску. Не дажыла яна да спраўджання сваёй мары аб адраджэнні Беларусі. Нарэшце, і я ўспомніў сваю родную мову, пераехаўшы з Казахстана, стаў ёю штодзень карыстацца.

Пасля гэтага Паўліна Вінцэнтаўна шчыра адкрыла мне свае таямніцы: і пра кніжку "Сцежкамі жыцця", якая напісана і чакае выхаду ў свет, і пра таямнічы ліст з грыфам "Распячатаць праз 50 год". А даверыла яго добрым, надзейным сябрам-аднавяскоўцам. Праўда, прозвішчы іх не назвала. А я пасля таго не раз у думках звяртаўся да гэтай памятнай сустрэчы з неардынарнай асобай, таленавітым чалавекам. Думаў: а можа, яна напісала штосьці такое, што датычыцца колішняй палітыкі ў СССР, можа, нейкія нечаканыя прагнозы выдала і г.д.?

У чарговы водпуск праз дзесяць год пасля гэтай сустрэчы я наведаў родную школу. Выступіў перад старшакласнікамі, шмат расказваў пра Казахстан. Будслаўская СШ тады ўжо справіла наваселле. Але стары драўляны будынак з пустымі вокнамі яшчэ не знеслі, стаяў побач. У новым школьным музеі, дарэчы, вельмі цікава аформленым, з рэдкімі экспанатамі фальклорнага зместу, дзе ярка адлюстраваны ўчарашні побыт сялян-беларусаў, мне паказалі кнігу. На вокладцы напісана: "Паўліна Мядзёлка. Сцежкі жыцця". Мінск, 1974 год". Выйшла яна праз чатыры месяцы пасля таго, як не стала Паўліны Вінцэнтаўны. Не ўдалося аўтару патрымаць у руках споведзь пра нялёгкі лёс, разам з чытачамі парадавацца ажыццяўленню запаветнай мары.

На жаль, набыць для асабістай бібліятэкі кнігу свайго школьнага педагога мне не ўдалося.

У кніжцы адлюстраваны толькі маладыя гады адной са старэйшых настаўніц рэспублікі. А як складвалася яе жыццё з 1925 па 1953 год -- шырокаму чытачу невядома. Магчыма, менавіта ў тым таямнічым "пасланні нашчадкам" ёсць нешта цікавае аб савецкім перыядзе жыцця П.В.Мядзёлкі. Спадзяёмся, што будслаўскія "давераныя асобы" гэтай жанчыны ў трэцім тысячагоддзі ўсё ж азнаёмяцца з пасланнем з такім інтрыгуючым грыфам.

КАЗІМІР ЛУБНЕЎСКІ,
журналіст.

## МАРКАВА -- ВЁСКА ТАЛЕНТАЎ

*"Не толькі на Маладзечаншчыне ведаюць мясцовую фальклорна-этнаграфічную групу "Лука". Старадаўна-абрадавае гулянне ўжо замірала. Настаўніца Маркаўскай школы Вера Мікітаўна Зікунова запісала яго і адрадзіла абрад на самадзейнай сцэне. Вядома, унесла ў яго свежасць сучаснасці, хоць у асноўным усё пакінула ў першародным выглядзе. Песні і карагод -- усё ў высокай ступені зграбна, эстэтычна..." -- прачытаў у кнізе "Повязь часоў" доктара гістарычных навук Генадзя Каханоўскага.*

*-- Ці спяваюць цяпер у вёсцы Маркава? -- спытаў я ў загадчыка аддзела культуры райвыканкома І.В.Пяткевіча.*

*-- Спяваюць, ды так цудоўна! Тая група даўно стала фальклорным ансамблем, якім па-ранейшаму кіруе Вера Мікітаўна Зікунова. Дарэчы, сёлета гэты калектыў адзначыў сваё 25-годдзе. Не злічыць гарадоў і вёсак, дзе ён пабываў з канцэртамі, -- Мінск, Маладзечна, Мядзельшчына, Вязынка... -- зазначыў Іван Віктаравіч.*

*Вось і нядаўна самадзейныя артысты народнага фальклорнага ансамбля выступілі з цікавай праграмай на свяце вуліцы Зарэчнай у сваёй вёсцы. Доўга маркаўчане будуць памятаць гэтую ўрачыстасць. Цёплыя словы ўдзячнасці былі адрасаваны ветэранам вайны і працы, перадавікам вытворчасці, мясцовым педагогам. Быў аб'яўлены конкурс на лепшы вясковы двор, ганаровыя прызы ўручаны пераможцам -- Зінаідзе Міцько, Івану Яблонскаму, Тамары Шуляк, Лідзіі Асіповіч і Ніне Шуляк. Лепшымі аўтарамі мастацкіх вырабаў прызнаны Марыя Рагуновіч, Глафіра Залеская, Тамара Рагуновіч.*

*Адным словам, настрой у вяскоўцаў быў добры. Спрыяла гэтаму, вядома, і высокае выканальніцкае майстэрства артыстаў, пра якіх у кнігах пішуць. Няхай надасць ім новага творчага імпэту і гэты сціплы допіс.*

*Зазначым, што свята было арганізавана па ініцыятыве ветэрана вайны і працы, дэпутата мясцовага сельскага Савета Канстанціна Конанавіча Дораха.*

Уладзімір КОБРЫН.

■ Народныя ўмельцы

# ЦЯПЛО ЛАЗОВАГА ДУБЦА



Жанчына-хутаранка пераязджала жыць у суседнюю вёску, дзе купіла сабе хату. З горада прыехалі сыны і дочкі, каб перавезці яе няхітры скарб. За нейкія дзве гадзіны ўсё нажытае ляжала ў кузаве грузавіка. Машына ўзяла курс на новае месца жыхарства. Але не праехала яна і двухсот метраў, як сялянка, пабарабаніўшы кулаком па кабіне, выгукнула:

-- Дзетачкі мае родныя! Я ж забылася галоўнае...

Яна скокнула з машыны і пабегла да хаты, якая ёй больш не належала -- сусед купіў на дровы. І праз некалькі хвілін жанчына вярнулася з лазовым кошыкам.

-- Я ж без яго прападу, -- папрасіўшы прабачэння за затрымку, заначыла перасяленка.

"Дзівачка, -- падумаў я тады пра сваю былую аднавяскоўку. -- Нямала пластмасавых, металічных вёдраў -- лёгкіх, з цікавымі малюнкамі на баках, а яна па лазовым кошыку ледзьве не плача..."

Гэты эпізод дваццацігадовай даўнасці прыгадаўся на выстаўцы работ народных умельцаў Стаўбцоўшчыны. Асабліва многа наведвальнікаў затрымлівалася ля кошыкаў, якія вырабіў С.А.Пятроўскі з вёскі Мікалаеўшчына. Не адводзіў вачэй ад вырабаў свайго земляка. Хацелася думаць, што і кошык маёй аднавяскоўкі -- таксама майстэрства рук Сямёна Андрэевіча. Ды ці мала іншых народных умельцаў на Міншчыне, чые кошыкі зграбныя, лёгкія, далікатна сплеценыя, нагадваюць не столькі гаспадарчую рэч, колькі мастацкі выраб. Як адзначыў С.А.Пятроўскі, у залежнасці ад прызначэння такія рэчы розняцца і памерамі, і формай: на бульбу, грыбы, ягады, садавіну, большыя і меншыя, з вечкамі і без іх, простага ці больш адмысловага пляцення. І кожная зачароўвае залаціста-аранжавым узорам, чаргаваннем зялёных дубцоў з белымі, ачышчанымі ад кары.

За апошнія гады наведаў сотні школ вобласці, у якіх цікавіўся арганізацыяй гурткоў па лозапляценню. І толькі ў Дулебскай, што ў Бярэзінскім раёне, сустрэў вучняў за такім заняткам. Крыўдна, што памірае прафесія плялельшчыка. Лаза была, ёсць і будзе вельмі прыдатным матэрыялам для народных умельцаў. Аб гэтым засведчыў у сваёй кнізе "Фарбы роднай зямлі" доктар мастацтвазнаўства, таксама былы жыхар Стаўбцоўшчыны Яўген Сахута: "З лазы можна вырабляць не толькі кошыкі розных форм і прызначэння. Калісьці гэты матэрыял скарыстоўваўся значна шырэй... З лазы плялі надзвычай прыгожыя кузавы выязных вазкоў. Каркас кузава вязалі з тоўстых прутоў, якія скарыстоўваліся пад рознымі вугламі, утваралі ромбы, кругі, паўкругі і іншыя геаметрычныя фігуры. Затым каркас перапляталі тонкімі дубцамі, нярэдка чаргуючы акораныя з неакоранымі. Ажурны малюнак нагадваў карункі. У падобнай тэхніцы выраблялі і мэблю..."

Прыемна адзначыць, што ў нашы дні да такога простага і таннага матэрыялу ўсё больш і больш пачалі звяртацца майстры, якія працуюць на прадпрыемствах мастацкіх рамёстваў. Некаторыя з іх нават закладваюць плантацыі лазы розных сартоў, бо "натуральнай" ужо не хапае. Вырабы атрымліваюцца цудоўныя.

Пра бярозу напісана нямала песень. І пра рабіну -- усіх не пераспяваць. Не абыдзены ўвагай дуб, вішня, каліна, чаромха. А вось пра лазу не чуў. Затое яна, як сцвярджае той жа Пятроўскі, як ні адно беларускае дрэва, вельмі прыгоднае для сумак, кошыкаў, фруктоўніц, хлебніц, талерак тонкага ажурнага пляцення і інш. Яны зручныя ў карыстанні, вельмі прыгожа ўпісваюцца ў сучасны інтэр'ер нашых кватэр.

Уладзімір КОБРЫН,

Васіль ЗЯНЬКО (фота).

На здымку: народны майстар **С.А.Пятроўскі.**

## Хатні экран

**9 кастрычніка, субота**

***Беларускае тэлебачанне***

16.00. Аўтарскі вечар І.Лучанка.
17.30. Навошта дадзена ўлада.
18.00. "Нов & К"-топ-10.
19.00. Да 60-годдзя ДАВТа Беларусі. Урачысты вечар.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.50. "Хвіліна для малітвы, секунда для смерці". Маст. фільм (ЗША).
23.40. Да 60-годдзя ДАВТа Беларусі. Урачысты вечар. Праціяг.

***Канал "Астанкіна"***

16.15. Чырвоны квадрат.
16.55.У свеце жывёл.
17.40. "Оба-на-вугал-шоу".
18.10. Ой, гармонік зайграў. Пабеглі хутчэй...
18.40. М.Захараў "Любоў мая--тэатр".
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. "Кітайскі сіндром". Маст. фільм (ЗША).
22.45. Студыя "Рэзананс" прадстаўляе.
23.00. Навіны.
23.20. Надвор'е.
23.25. На першынство свету па шахматах.
23.40. Навіны шоу-бізнесу.
0.05. Спорт.
0.15. Лепшая музычная "дзесятка" месяца.
1.00. Стоп-кадр.
1.30. Праграма MTV.
2.00. Аўтаэкспрэс.

***Канал "Расія"***

16.05. Відэапаэзія С.Таратута.
16.20. Футбол без граніц.
17.15. Фільм-прэм'ер.
17.30. Майстры. "Народжаны ў свята". В.Розаў.
18.15. Вуснамі дзіцяці.
18.45. Свята кожны дзень.
19.00. Весткі.
19.25. "Уінстан Чэрчыль. Шлях да вяршыні". 2-я серыя.
20.25. Тэлеэрудыт.
20.30. Маскі-шоу.
21.00. Зусім сакрэтна.
22.00. Весткі.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.40. Праграма "А".
23.40. "Бландзінка за вуглом". Маст.фільм.

***Санкт-Пецярбург***

16.40. Гістарычны альманах.
17.25. Спартыўны агляд.
17.55. Дарожныя здарэнні.
18.00. Вялікі фестываль.
18.15. Эканоміка Расіі: рэгіянальны аспект.
18.45. Канцэрт па заяўках.
19.20. Факт.
19.40. Экспрэс-кіно.
20.00. Дак.фільм.
20.35. Ваш стыль.
20.40. "На парозе ночы".
21.30. Уік-энд.
22.30. Дом кіно.

**10 кастрычніка, нядзеля**

***Беларускае тэлебачанне***

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.25. Слова да чалавека.
8.55. Справы вайсковыя. Свята авіятараў у Бабруйску.
9.40. "Стэла". Маст. фільм. (ЗША).
11.30. Асілак.
12.30. Музычна-пацяшальная праграма з удзелам дзіцячых мастацкіх калектываў Старадарожскага раёна.
13.20. Кінаэкран кастрычніка.
14.15. На крылах кажана.
15.25. Таямніца. Праграма для сям'і.
15.55. Мультканцэрт.
16.35. "Старыя-разбойнікі". Маст. фільм.
18.05. З панядзелка... Захавай цеплыню.
18.45. А.Хачатуран. "Спартак". Спектакль ДАВТа Беларусі. У перапынках :(20.00) -- Панарама; (20.55)-- Калыханка.
22.00. Каскад.
22.15. Пад купалам Сусвету.
22.25. Відзьма-нявідзьма.
23.25. Футбол. ФК "Маладзечна"--"Дынама" (Мінск).

***Канал "Астанкіна"***

8.30. "Дэнвер-- апошні з дыназаўраў". Мультфільм.
9.00. Пакуль усе дома.
9.30. Тыраж "Спортлато".
9.45. Ранішняя зорка.
10.35. Палігон.
11.05. Дэтэктыў-ленд.
11.40. Зямля людзей. Экалагічная праграма.
12.10. Правінцыя. "З Гогалем па Расіі".
13.00. "Піф і Геркулес". Мультфільм.
13.10. "Падводная адысея каманды Кусто". Дак. фільм.
14.00. Навіны.
14.20. Дыялог у прамым эфіры.
15.00. Клуб падарожнікаў.
15.50. Жывое дрэва рамёстваў.
15.55. "Каспер і яго сябры" і іншыя мультфільмы.
16.50. Панарама.
17.30. Тэлелоцыя.
17.45. Навіны.
18.00. Творчы вечар Маі Плісецкай.
18.55. Надвор'е.
19.00. Кінаафіша.
19.25. "Казімір". Маст. фільм. (Францыя).
21.00. Навіны.
21.45. Спартыўны уік-энд.
22.00. Працяг творчага вечара Маі Плісецкай.
23.20. Навіны.
23.45. Футбол. "Дынама" (Масква)--"Акіян" (Находка).

***Канал "Расія"***

8.00. "Снеданне для чэмпіёнаў".
8.30. "Царскі тур".
9.00. Студыя "Рост".
9.30. Здароўе.
10.00. Аты-баты...
10.30. Кіпрас Мажэйка. Рэпартажы з Паўднёвай Афрыкі.
11.00. "Снег -- лёс мой". Дак. фільм. 2-я серыя.
12.00. Фальклор. Фестываль ў Іспаніі.
12.30. Мульці-пульці.
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
13.20. "Не высечы..."
13.35. "Мужыкі!".
15.10. Лад-галерэя. В.Лубенка.
15.40. Каробка перадач.
15.55. Белая варона.
16.55. "Новыя прыгоды Віні-Пуха", "Чорны плашч". Мультфільмы.
17.45. Зорны дождж.
18.45. Свята кожны дзень.
19.00. Весткі.
19.25. "Першае захапленне". Маст. фільм.
21.10. У Ксюшы.
21.40. Амерыка Уладзіміра Познера.
22.00. Весткі.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.40. "Гарадок".

***Санкт-Пецярбург***

7.55. Уік-энд.
8.55. Экспрэс-кіно.
9.10. "На парозе ночы".
10.00. Новыя часы.
10.30. Хуткая дапамога.
11.00. Нядзельны лабірынт.
13.05. "Маці Урагана". Маст. фільм.
14.45. Музыка--дзецям.
15.00. Мультфільмы.
15.40. Тамаза Альбіноні. Камерная сімфонія.
16.10. "Упершыню замужам". Маст. фільм.
17.40. Футбол. "Зеніт"--"Тарпеда" (Волжск).
18.30. Факт.
18.55. Зебра.
20.00. НТБ "Вынікі".
21.05. Ваш стыль.
21.10. Крымінальнае дасье.
21.30. Сустрэча для вас...
22.15. Прагноз інфарм-рэвю.
22.35. "Адам і Ева плюс..."
23.05. Сустрэчы для вас... (працяг).

■ Гумарэска

# РЭКЛАМНАЯ ПАЎЗА

Работнікі Дома культуры вёскі Падбалоцце цешылі жыхароў рознымі забавамі. Вось і на гэты раз вырашылі яны правесці гульню "Поле цудаў" на манер тэлевізійнай. Доўга ламалі галовы над сцэнарыем і, нарэшце, прыдумалі такі, што хоць пасылай у Астанкіна. Словам, чарговае мерапрыемства ў Доме культуры павінна было ўскалыхнуць аднастайны вясковы быт.

Загвоздка заставалася толькі за рэкламнымі паўзамі. Ніяк не маглі вырашыць культработнікі, што ж у іх рэкламаваць. Пастанавілі: трэба схадзіць у вясковы магазін, каб высветліць усё на месцы.

-- Можа, спірт "Раял"? -- кіўнуў рукой на рады стромкіх бутэлек актывіст мастацкай самадзейнасці Сцяпанкін. -- Моцная рэч! Да таго ж наш магазін ім затавараны.

-- Глупства! -- запярэчыла салістка вакальнай групы Доўгая. -- І так нашы мужыкі паспіваліся, а пасля такой рэкламы наогул не будуць прасыхаць.

Падумалі, паўздыхалі. Нарэшце нехта звярнуў увагу на літровыя слоікі, якімі быў забіты адзін са стэлажоў.

-- Што ў іх такое? -- пацікавілася дырэктар СДК Іванова.

-- Капуста марынаваная з грыбамі, -- адказала прадавец. -- Ужо шэсць гадоў стаіць.

-- Не, рэкламаваць трэба добры тавар, -- уздыхнула Іванова. -- Ці ёсць што-небудзь больш свежае?

-- Цукар прывезлі, локшыну. Але ўсё гэта па талонах. Ёсць штаны, ды занадта вялікія, у нас і мужчын такіх няма.

Зноў задумаліся аматары сцэны. Вырашылі падацца на ферму. Ёсць там перадавая даярка Сцепуржыцкая, дык чаму б не парэкламаваць яе работу? Няхай усе астатнія на перадавіка раўняюцца.

Сцепуржыцкую сустрэлі адразу. Яна якраз цягнула бітон з малаком. Даведаўшыся, з якой мэтай да яе завіталі, наадрэз адмовілася:

-- Хочаце, каб я гэтак жа цягала па сцэне поўны бітон? І без рэкламы, і з ёю -- няма дурняў працаваць на нашай ферме.

Зноў справа застапарылася. І тут нехта сказаў: ёсць у вёсцы дбайны гаспадар дзед Васіль. Цудоўных цялушак гадуе. Вось дзе выдатны матэрыял! Няхай іншыя павучацца, як цялушак гадаваць. Разам з тым і больш выгадны пакупнік знойдзецца.

-- Згодзен, чаго фанабэрыцца, -- махнуў рукою дзед. -- Хоць на старасці на сцэне пакрасуюся.

...Зала Дома культуры ў той вечар была поўная. Дзесьці ў сярэдзіне гульні вядучая аб"явіла:

-- А цяпер -- рэкламная паўза!

Пад гукі маршу на сцэну выйшаў дзед Васіль -- у святочным пінжаку, пры ордэнах і медалях. На вяровачцы ён вёў за сабою цялушку, дагледжаную пярэстую прыгажуню.

Вядучая адрасавала дзеду шмат добрых слоў. І ён, задаволены і разгублены ад такой увагі, пад бурныя воплескі пакінуў сцэну.

Гульня ўсім спадабалася. І вось праз тыдзень меўся адбыцца яе другі тур. Якую рабіць рэкламную паўзу? Арганізатары гульні цяпер галаву не ламалі -- яны зноў рушылі да дзеда Васіля.

Той якраз корпаўся каля куратніка.

-- Рыхтуйся да рэкламнай паўзы, дзед Васіль! -- бадзёра звярнулася да яго дырэктар СДК. -- Разам са сваёю цялушкай!

Дзед падняў галаву, і ўсе ўбачылі, што ён зусім не ў гуморы.

-- Свіснулі маю цялушку мінулай ноччу, -- патрос стары кулаком. -- Прама з хлява. Адна толькі вяровачка і засталася. Каб трасца вас узяла разам з вашай рэкламнай паўзай!..

Ад нечаканасці ўсе раскрылі раты. Першы ачомаўся Сцяпанкін:

-- Я ж казаў, што трэба рэкламаваць спірт "Раял". Рэч надзейная...

Аляксандр ГЕРМАНОВІЧ.

г.Дзяржынск.

**Наш адрас:**
220041, гор.Мінск,
вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9,
рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара—68-25-81,
адказнага сакратара -- 68-26-48,
сакратарыята — 68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
гуманітарнага --68-25-76,
сацыяльна--эканамічнага --68-25-43,
грамадска-палітычнага --68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага --68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем— 68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03,68-26-48,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88,
Салігорску — (8-210) 2-49-60.

ЗАСНАВАЛЬНІК – Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў.
"Мінская праўда"-- орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.



Час падпісання ў друк: па графіку 22.10.
Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і зверстана на настольна-выдавецкім комплексе.
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
Тыраж 18060. Індэкс 63923. Зак № 117.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12